# Закляты скарб

У рэчцы, што ля замчышча цякла,
Знаходзілі манеты залатыя,
Там скарбніца таемная была,
Хаваліся багацці дарагія.

А на вяршыні замчышча таго,
Як цёмна ноч прасторы ахінала,
Нібыта заклікаючы каго,
Вярэніца агеньчыкаў скакала.

Чырвоныя і белыя агні
Таемна запрашалі за сабою,
Ляцелі ўгору, падалі к зямлі,
І без прыкмет знікалі раніцою.

Старыя павядалі: “Гэта знак!
Там золата і срэбра пахавана,
Ды толькі не даецца проста так,
Багацце сотні год зачаравана”.

Аднойчы хлопцы ўлетку прывялі
К начлегу перабыць вясковых коней.
Суцішыліся, спаць усе ляглі
І змрок упаў на стомленыя гоні.

Сон дзіўны, добра спіцца дзецюкам
І вогнішча спакойна дагарае,
Аж чуецца праз сон то тут, то там,
Самотна нехта, жаласна гукае.

Ці плач, ці стогн, ці рэха уначы,
А ўсё жалобна клікае і просіць,
Здаецца, што з-пад самае зямлі
Душа зачараваная галосіць.

Прачнуліся. Агеньчыкі гарацьь,
А сярод іх прыгожая дзяўчына,
Ды толькі не жывая, а відаць,
Прывід, які блукае безупынна.

Вось блізіцца яна, ідзе бліжэй,
Ахоплівае багнай цёмнай ночы,
Спадаюць валасы з худых плячэй
І страшнай сілай захапляюць вочы.

Грабеньчык у руках, для валасоў,
І кажа: “Мае косы расчашыце!
Аддам тры куфры злата, камянёў,
Вазьміце гэта ўсё сабе, вазьміце!”

Тут певень заспяваў і ў міг адзін
Прывід нібыта у зямлю зваліўся,
Агеньчыкі сышлі услед за ім,
А на царкве спеў звона прабудзіўся.

І быццам пелена сышла з павек,
Ад страшных чараў вочы ім абмылі.
І замчышча стаіць і сонца свет
Там за гарой святыя запалілі.

Пагоншчыкі прыгналі у сяло
І пра здарэнне дзіўнае казалі,
Той верыў, той пытаў яшчэ каго,
Ды месца тое людзі абміналі.

Старэйшыя казалі маладым,
Што пастухам закляты скарб явіўся,
Ды толькі не даецца ён жывым,
А на тым свеце душам не згадзіўся.



# ПРАКЛЯТАЕ СРЭБРА

Вяртаўся салдацік з пабыўкі у войска,
Балела душа, далёкі зваў шлях,
А дома зямля гаманіла па-свойску,
Шумелі бярозы на вольных вятрах.

Што зробіш, такая нялёгкая доля
Ісці і служыць ад родных кутоў.
Мінае салдат пералесак і поле,
Спускаецца ноч на прасторы далоў.

Вось вёска чужая. Хіба папрасіцца
На ноч да якіх гаспадарскіх людзей?
Да крайняе хаты пайшоў пакланіцца
І выйшаў насустрач яму багацей.

Вядома, салдата у хату не звалі,
Кладзіся, бядача, у панскім хляве.
Дый дзякуй за тое, усё ж не прагналі,
Уклаўся служывы, ды сон не бярэ.

То нейкія мроі, то згадкі прыходзяць,
То паварушыцца ізноў закарціць.
Аж чуе – за сценкай нібы хтосьці ходзіць,
Праз дзверы таемна пачаў ён сачыць.

І бачыць: ідзе гаспадар гэтай хаты,
Ступае павольна цяжкою хадой,
За спінаю мех, у ім срэбра багата,
Манеты звіняць, пан глядзіць за сабой.

Вось тут за гумном раскапаная яма,
Агледзеўся,  срэбра з пляча сыпануў,
Вярнуўся у хату, прыйшоў нечакана,
Яшчэ меркі дзве у зямліцу турнуў.

Тым часам салдат зняў свой крыжык свянцоны
І кінуў на срэбра, у яму наверх,
Прыйшоў гаспадар і манет незлічоных
Яшчэ тры мяхі перасыпаў паверх.

Дастаў сваю стрэльбу, бабахнуў высока
І мовіў закляцце у цемры начной:
-Як стрэл гэтай кулі пачуўся далёка,
Глыбока схавайся, мой скарб, пад зямлёй!-

Азваліся рэхам бразготкім манеты
І рухнулі ў бездань зямных далячынь,
Відаць, незвычайныя гэта прыкметы,
Калі ясны месяц схаваўся з вышынь.

Сплыла сіня ночка, а сонечным ранкам
Салдат развітаўся з тым гаспадаром,
Дарогай ішоў, дзе кланяўся ганку,
Дзе песні спяваў,  дзе спаў за дваром.

Сканала гадамі суровая служба,
Бывалы салдат зноў дахаты ідзе,
Жыццё даравала каханне і дружбу,
Багацця ж бядак не сустрэў анідзе.

Вось дзіва! І сцежка даўно пазабыта…
Калісьці тут быў? Гэта ж тут начаваў!
І тая ж калітка шырока адкрыта
І дворык, дзе пан серабро пахаваў.

-Гэй, людзі! Ці жыў хто, заснулі на печы?-
Выходзяць і кажуць: “Гаруем, жывём!
Наш бацька быў панам, а мы у галечы,
Ніхто не дзяліўся ламаным рублём!”

І тут распавёў ім салдат пра падзеі,
Ён дваццаць гадоў таямніцу хаваў,
Што бацька-нябожчык іх быў багацеем,
Пад сцены гумна серабро закапаў.

Дарэчна людзей папрасіў пабажыцца,
Паставіў сумленна умову адну:
-Што будзе пад крыжам, то вам прыгадзіцца,
А што да яго – я сабе забяру! –

Пабралі рыдлёўкі, адрылі багацце,
Што клалась да крыжа, служывы забраў.
Ды дзіўнае дзіва, ды чорна пракляцце!
Астатняе знікла, як крыжык падняў!

Пад глебаю дзесьці страшэнна грымела
І скарбы у бездань сышлі назаўжды,
Закляцце згарэла, навекі сатлела
І знікла заўчасна у промнях зары!

# Музыка і вядзьмар

Граў музыка на вяселлі,
Добры задаваў настрой,
Гукі хмельныя ляцелі,
Заклікалі за сабой.

Песні, танцы даспадобы
Спевам родным дарагім
Служаць добраю аздобай
На вяселлі маладым.

Гучна скрыпачка заводзіць,
Задае сардэчны лад,
Пары за сабою водзіць,
Кожны весяліцца рад.

Так было у часе даўнім,
Свой парадак быў ва ўсім,
Граў музыка незвычайна
І здараліcь цуды з ім.

Нейкім разам запрасілі
На шыкоўны панскі баль,
Добра грошай пасулілі
І казалі: “Прыязджай!”

Хорам пана быў за борам,
За балотам і ляском.
Звілістым крывым узорам
Шла дарожанька кругом.

Вось сабраўся наш музыка
Ехаць на бяседу граць,
Скрыпачку паклаў са смыкам,
Коніка стаў запрагаць.

Непрыкметна звечарэла,
Брычка лёгкая бяжыць,
Коціцца рухава, смела,
Бор галінамі шуміць.

Разаслалася дарога,
Хмельны водар абступіў,
Авалодала знямога,
Сон дрымотны ахапіў.

Раптам совы загукалі,
Праляцелі кажаны,
Вочы дзікія блішчалі
Сярод багны цемнаты.

Вось наперадзе балота,
Змеі поўзаюць паўсюль,
Хмарай камары-згрызоты
Вылятаюць з неадкуль.

Ехаў шпарка, гнаў задорна,
За балотам лес густы,
Дрэвам векавым раздольна,
Пышнай футраю кусты.

Вох ты, казачнае месца!
Што чакае тут яшчэ?
Так падумаў і нарэшце
Па дарозе хтось ідзе.

Нізка ў пояс пакланіўся,
- Я васпана правяду!
Конік ваш, гляджу, стаміўся,
Пераехаўшы бяду. –

Падарожнік быў манахам,
Ўвесь у чорным да зямлі.
Неяк хутка, адным махам
Да палаца падышлі.

Але дзіва, ў вокнах цёмна
І гасцей нідзе няма,
Над прасторам ноч бяздонна,
Ў небе зорачка адна.

Тут манах як зарагоча,
А тады як закрычыць:
- Гэй, нячыстыя! Хто хоча
Музыканта весяліць? –

Ведзьмы з закуткоў ляцелі,
Мерцвякі з-пад камянёў,
Скрасці скрыпачку хацелі
І разбіць яе далоў.

Тут музыка прахапіўся,
Учапіў жывучы смык,
Ды урэзаў, ажывіўся,
І задаў нячыстым зык!

Пляша погань і не рада,
Што за скрыпкаю пайшла,
За музыкавай прынадай
Да балота падыйшла.

- Адпусці нас, чалавеча!
  Больш не можам мы плясаць!
- У балота лезь, галеча!
  І не смей мне дакучаць!-

Плюнуў зверху, сеў у брычку
І да панскага двара
Даляцеў, і граў па звычцы
Цэлу ночку да святла.

Пан, адсыпаўшы дукатаў,
Пакланіўся да зямлі,
А паверх тае адплаты
Госці грошыкі нянслі.

Сярод іх быў нейкі злыдзень,
Ціха скрыпачу сказаў:
- Чараваў я цэлы тыдзень!
А цябе і чорт не ўзяў!

Хто адправіў у дарогу?
Хто замову гаварыў?
Чэрці паламалі рогі,
Ты ж іграў і гэтым жыў!

- Я такія ноты знаю,
  Што правалішся і ты!
  Госці, гэй! Ізноў зайграю!
  "Крыжачок" ідзе сюды!-

Весела гучыць, раздольна
Беларускі "Крыжачок"!
На сваёй старонцы вольна,
А ўсе злыдні - науцёк!

# ХУТ

Ахінае вёску вечар,
Дастаюць вячэру з печы,
Бабку, скварачкі, каўбаску,
Зайдуць госці – калі ласка!

Хлеб на стол з лістом кляновым,
Жбан з духмяным квасам новым,
Сыр і масла, пірагі,
Агурочкі ў два рагі.

Сонейка за гай заходзіць,
Месяц зорачкі выводзіць,
Толькі ў хатачцы адной
Спадзяваны неспакой.

Гаспадыня паспяшае,
Госця знатнага чакае,
На гарышчы стол накрыла,
Ціха шэптам гаварыла:

- Хут, ідзі яечню есці!
  Будзе ласкі, будзе чэсці!
  Пачастуйся, дарагі,
  І з дарогі адпачні! –

Гаспадыня йдзе у хату,
А на небе шум крылаты.
Яркім шарам зіхаціць,
На вячэру Хут ляціць.

Пад застрэшак залятае,
З добрым смакам пад’ядае,
Як надарыцца, бясспрэчна
Рад вяндліне і яечні.

І за гэта гаспадыню
Без падзякі не пакіне,
Абляціць увесь абшар,
Прынясе належны дар.

Золата нясе у хату,
Хлеба кожны год багата,
Дыямэнты, серабро,
Разначыннае дабро.

Неяк зноў патэльня стыне,
Заклікае гаспадыня,
А на вуліцы жабрак
Ўсё падслухаў, што ды як.

З’еўшы Хутаву вячэру,
Шпарка выскачыў за дзверы
І пабег аж за сяло,
Толькі бачылі яго.

На гарышча Хут забраўся
І страшэнна раззлаваўся.
- Гэта вы з мяне пакпілі?
  Ну, чакайце! Заслужылі! –

Перакінуўся агнём,
Пракаціўся над дваром,
Вось гарыць усё палае,
Вёска на бяду збягае.

Срэбра, золата гарыць,
Дах над хатаю трашчыць,
Засцілае вочы дым,
Полымя ляціць за ім.

Не спатрэбіцца багацце,
Калі за душой пракляцце
І даводзяць да магілы
Сувязі з нячыстай сілай.



# Кадук

Ідзе па балоце Кадук,
Праз топкую багну ступае,
Таму не мінуць яго рук,
Хто ў часе ліхім заблукае.

Страшэнныя зубы тырчаць
У пашчы ад вуха да вуха,
Чырвоныя вочы гараць,
Вядуць яго жудасць і скруха.

Вакол яго світа ідзе,
Нячысць, вупыры, вурдалакі,
Іх зграя у поўнач цвіце,
Абходзяць ваўкі і сабакі.

І вось падарожны адзін
Ад сцежкі трывалай адбіўся,
Зблукаўшы, не ведаў гадзін,
А потым прылёг, прытаміўся.

Ляцелі з галін кажаны,
А потым зазоўкі гукалі,
Дзівіліся моцна яны,
Калі чалавека спаткалі.

Таго і глядзі - будзе пір,
Ігрышча заграюць ліхое,
Пацешыцца сёння вампір,
Русалкі паклічуць з сабою.

Прачнуўся, глядзіць чалавек,
На шэраг страшэнных істотаў,
Бывалы ён быў, ды за век
Не меў яшчэ гэткіх турботаў.

І чуе: "Прадай мне душу!
Што з цела прыбудзе карысці?
Крывёй тэстамэнт падпішу,
Жывому табе ўжо не выйсці!

А цела з'ядзім мы, з'ядзім!
Каму яно трэба у лесе?
На смеласць тваю паглядзім
І чэрап на елку павесім!"

Мужык адарваў палыну
І кінуў нячыстым пад ногі,
Ён ведаў малітву адну
І родныя сцежкі-дарогі.

Завылі страшэнна чарты,
Ды толькі Кадук не спужаўся.
- Гэй, смертны, дык думаеш ты,
  Што з роўняй сваёю спаткаўся? –

  А смелы герой на той сказ
  Прамовіў: "О, Езу, Марыя!
  Ратуйце мяне ў гэты час
  Анёлы і людзі святыя!"

  Успомніў касцёлу званы
  І сілу магутных арганаў,
  Імшу і Святыя Дары,
  Маленне Хрысціцелю Яну.

Наклаў на сябе крыжа знак,
Аж нечысць ускрыкнула жудка,
Хто лез пад зямлю, а хто як
Выглядваў яшчэ з-пад закуткаў.

З далёкага кляштару звон
Ударыў і пошасць зніцела,
Пачуўся здалёк ціхі стогн
І хутка зара загарэла.

Пайшоў падарожны далей
І добра яшчэ памаліўся,
Услsavіў анёлаў, людзей,
І Пану Хрысту пакланіўся.

Гісторыю гэту казаў
Калісь арганісты касцёльны,
За праўду яе прысягаў
У часе бяседы застольнай.

# Белая баба

Ой, па зіме, ды у саване белым,
Белая баба вее снягі,
З сумнай выразай на твары змарнелым
Крые ільдамі рэк берагі.

Плацце яе бялей белага свету,
Хустка чырвоная ў доўгай руцэ,
Калі сустрэне хто гэту прыкмету,
Значыць загіне ў халоднай рацэ.

Лёд паглыне і бяздонныя хвалі
Скрыюць ахвяру навек ад вачэй,
Ды панясуць у таемныя далі
Схованкі-глыбі крыштальных ключэй.

Кажуць, бывае і з лесу выходзіць,
Ды на магілы ляціць неўпрыкмет,
Там спакаення датуль не знаходзіць,
Покі не кіне ў зямлі свежы след.

Кліча і просіць: “Ідзіце, ідзіце!
Я падсцяліла яловым галлём,
Цела нябожчыка тут пакладзіце,
Мы з завірухай яго адпяём!”

Прашчуры дзеям вучылі ахоўным:
Каб зберагчы дарагое жыццё –
Трэба, як прыйдзе месяца поўня,
Зманлівай сілай спыніць пракляццё.

Выйсці за вёску і за гасцінцам
Вырыць глыбока яму адну,
Дол яе выслаць чыстым асінцам,
Ды закапаць там каня галаву.

З даўняга часу гэтак рабілі,
Духі пакутныя міма прайшлі,
Людзі ж паданняў былых не забылі,
Мудрасць народную ў іх здабылі.



# ПАМОРАК

Ходзіць ён па сцежках чорных,
Па балотах незлічоных
І прыводзіць за сабой
Смерць з навостранай касой.

Засыхае жыта ў полі,
Гіне моцны звер на волі,
Чары цёмныя ідуць,
Пошасць па зямлі нясуць.

А у вёску завітае,
Божы душы забірае,
Ні старых, ні маладых
Не шкадуе, п’е кіліх.

Люд заве яго Паморак,
Як ступае на падворак,
То бяда ідзе вакол,
Жыцці падаюць на дол.

Год чатырыста таму
У глыбоку старыну
Небывалы ураджай
Абяцаў народу рай.

Хлеб радзіў, было да хлеба,
Аддавала з працы глеба
Па рабоце ўсіх людзей
Для сябе і для гасцей.

Радасць жа адна не ходзіць,
Часам гора з сабой водзіць,
Дакацілась навіна,
Што гаруе старана.

Кажуць, бачылі Паморак
Вёрст за трыццаць, ці за сорак,
Нельга люду спачываць,
Трэба злыдня пільнаваць.

Мужыкі ў адно імгненне
Крыж паставілі ў сяленні,
А пад ім агонь гарэў,
Ноччу пыхаў, ранкам тлеў.

Да таго ж варылі потым
З горкіх палыноў анодым,
Ім акурвалі двары,
Хаты, гумны і хлявы.

Нейкім днём адзін хлапчына
Ў горад выйсці меў прычыну,
Па дарожаньцы ідзе,
Кій асінавы нясе.

Вось мінуў сялібы хаты,
Пералесачак бахматы,
Адпачыў, ідзе ізноў,
Да балота падышоў.

Глядзь, як купіна страшная,
Перад ім стаіць старая,
Рукі, як карчы крывыя,
Вочы дзікія, пустыя.

Скеміў хлопец хто прад ім,
Давялось сустрэцца з кім,
То Паморак, як старуха,
Страх з сабой нясе і скруху.

Кажа: "Хлопча, памажы!
На той край перавядзі!
- Добра, бабка! Кій трымай,
Прада мной смялей ступай! –

Сам агледзеўся хутчэй,
Стаў на купіну лаўчэй,
Ды старую ў багну скінуў,
Пад вадой Паморак згінуў!

Вестка ў вёсачку прыйшла,
Устрывожылась яна.
Сталі думаць добры  людзі,
Цішыня, ці ліха будзе.

Едзе конік па дарозе,
Раптам стаў нібы ў трывозе
Таямніча пазіраць,
Па імшарыне блукаць.

З лесу выйшаў дзед касматы,
Уся вопратка у латы,
Пераносіца згніла,
Просіць ехаць да сяла.

- Вох, бадзяцца я прывык,
Падвязі мяне, мужык!
Я багацце вам дарую,
Ўсіх належна ушаную!

У мяне шчадроты многа,
Падыходжу да парога,
Ды раўняю спакваля
Жабрака і караля!

- Добра, дзеду! Ў воз кладзіся,
Толькі сенам ахініся,
Зараз едзем у сяло,
Паганяй, залётны, но! –

Лейцы сціснуў у далонь
І да крыжа, дзе агонь,
Там, як раз, здалёк відаць,
Мужыкі гуртом стаяць.

На гару ўзляцеў, міргае,
Хітра на вазок ківае,
Зразумелі мужыкі,
Хто пад сенам быў такі.

Крута развярнуўся конь
І Паморак у агонь,
Віламі, сякерай білі,
Ў ярым полымі спалілі!

Выбух страшны прагрымеў,
Дым за дзесяць вёрст ляцеў,
Так пад крыжам гад загінуў
І парадкі свае кінуў.

Людзі добра зажылі,
Спела збожжа на раллі.
Селяніну чэсць-пахвала,
Богу ў Тройцы свенту слава!

## Апівень

Па зямельцы кожны дзень
Ходзіць хітры Апівень,
Грэх у чаркі разлівае,
На імя кідае цень.

Дзе застолле – тут як тут
Ён займе пачэсны кут,
Падбівае чалавека
Лезці у паганы бруд.

Часам кажуць: “Ад віна
Усялякая віна!”
Ды чаго ўжо тут дзівіцца,
То даўно не навіна!

Як пасядуць дружна госці,
Пазірае ягамосце,
Каб каторы зачапіўся,
Паламаўшы свае косці.

Той таго ужо піхнуў,
Ды па твары лупануў,
Гэта значыць, што на “подзвіг”
Апівень іх падштурхнуў.

Чуеш лаянку здалёк,
Брыдкіх слоў плыве паток? -
Апівуда валаводзіць
Агрызнецца і наўцёк!

А каго дзе падманулі,
Хітра ў лапцікі абулі?
Ведай цвёрда – перад гэтым
Шчодра ў чарачку лінулі!

А на дрэва хто залез,
А марозам хто замерз?
На кані па садзе ехаў,
Слівы паламаў і бэз?

А на рэчцы утануў,
А ў палонку баўтануў?
Па чыёй жа добрай волі
Чарку горкай каўтануў?

А з чаго пракляты сон
Навявае самагон?
Так што людзі не гавораць,
Кажуць: "Выйдзі, ліха, вон!"

На забойства йдзе замах,
На грабёж, усякі жах?
Знаць, ізноў віно хадзіла
Па сяле і гарадах!

Ганьба гэта, а не справа,
Каламутная атрава!
Добрага аб ёй не скажуць,
Чорная блукае слава!

Так і ходзіць Апівень
Па сяленнях кожны дзень.
Толькі тыя ўратаваліся,
Хто зацвердзіў: п'янства – дрэнь!

# Хлеўнік

У хляве кароўка спіць,
Курка з катуха глядзіць,
Конь частуецца аўсом,
Навявае ночка сон.

На сцяне вісіць хамут,
Серп, вяровак пругкі жмут,
Але хтось нябачна ходзіць
І парадак тут наводзіць.

Гэта Хлеўнік-гаспадар
Сілай надзвычайных чар
Беражэ свой ціхі дом,
Сцеражэ з усім дабром.

Падкладзе скацінцы есці,
Дапаможа мех паднесці,
Яго трэба паважаць,
Добрым словам шанаваць.

А бывае Хлеўнік-шкоднік,
Ён такі ужо нягоднік,
Ўсё разбурыць, раскідае,
Растрыбушыць, паламае.

Масць карове папсуе,
Ці у шкоду завядзе,
Конь пад ім ляціць-імчыць,
Нават можа і забіць.

Вось такога звадыя
Выганяў з падворку я,
На то даўні ёсць сакрэт,
Перадаў яго мне дзед.

Ахрысціўся на бажнічку,
Свечку запаліў грамнічну,
Як да хлева падышоў
Вочы не спусціў з кутоў.

Над агеньчыкам па слову
Мовіў дзедаву прамову,
Каб парадак наступіў
З гаспадаркай гад не жыў.

“Ён прыйшоў, мяне убачыў,
Забяры яго няўдача!
Зачапіся, залякніся,
На падворак не вярніся!”

Тут жа свечка як успыхне,
Нешта вохне, нехта ўздыхне,
Гучна дзверы ляскаталі,
Знаць, нячысціка прагналі.

Будзе ён цяпер хадзіць,
На балоце страшна выць,
Мошак-камароў ганяць,
Сваю долю праклінаць.

Ды ніколі, ні за што
Больш не вернецца ў сяло,
Спрабаваўшы лёгкі хлеб,
Не мінуць гаркавых бед.

Калі ведаць сваю працу,
То і хлеў будзе палацам.
Не лянiся працаваць,
Будзеш добра пажываць!



# Пушчавік

Пушчавік галлём шуміць,
Пушчавік быллём трашчыць,
За парадкам назірае,
З вышыні у даль глядзіць.

На магутныя дубы
Паразвесіў жалуды,
На бярозкі завушніцы,
А на ліпы ліў мяды.

Ўсё хадзіў, спяваў адзін,
Пад гаркавы шум асін,
Раскідаў  убор чырвоны –
Гронкі спелыя рабін.

Кожна дрэўца апране
Ў дзень пагодны па вясне,
А зімою ў холад люты
Футрам снежным ахіне.

Летам кветак не шкадуе,
Птушак ягадай частуе,
Восенню  ляціць віхурай,
Над прасторамі чаруе.

Жоўтай фарбаю, чырвонай,
Дзе-нідзе яшчэ зялёнай
Убярэ кусты, узлескі,
Вольхі, явары і клёны.

Мякка высцеліць імшары,
Елкамі расчэшыць хмары,
Каб яны хутчэй разнеслі
Водар хвоі па абшары.

Пушчавік галлём шуміць,
Пушчавік быллём трашчыць,
За парадкамназірае,
З вышыні у даль глядзіць.



## Чорная баба

Восеньскай ноччу ў небе глыбокім
Чорная баба ляціць над зямлёй,
Даль ахінае падолам шырокім,
Носіць з сабою вечны спакой.

Круціць віхуры, ветры заводзіць,
Вые у коміне часам начным,
Скрыпне дашчанкаю, дахі абходзіць,
Жах надае маладым і старым.

Пільна глядзіць на сяленні людскія,
Спусціцца долу, ў вакно зазірне,
Ціха крадуцца цені крывыя,
Гукі глухія ідуць па сцяне.

Вось на парог узыходзіць павольна,
Крыж на дзвярах ставіць чорным вуглём,
Значыць, гаротнай душы будзе вольна,
Цела ў тры дні пакладуць за сялом.

Ведаюць людзі ліха начное,
З даўняга часу звычай вядуць –
Дзверы зліваюць свянцонай вадою,
Вехаць палынную ў сенцах кладуць.

Слова малітвы ўголас чытаюць,
Полымя свечкі нясуць да дзвярэй,
Самі вугаллем крыж пазначаюць,
Гляне кастлявая – пойдзе далей.

Круціць мятлою, віхор наганяе,
Ў небе імчыцца ноччу глухой,
А да людзей ужо не завітае,
Ім не патрэбен вечны спакой.



# Каралеўна – вядзьмарка

Каралеўна ў люстэрка глядзела,
На двары была цёмная ноч,
Яркім полымем свечка гарэла,
Цені ўзмахвалі крыллем наўзбоч.

У пакоі жыла таямніца,
Праз ваконца прамень зіхацеў,
Адазвалася дзесь навальніца,
Каля поўначы гром прагрымеў.

Адзін хлопец ішоў з пагулянкі
І праз шыбу тайком зазірнуў,
Асвяцілі прастору маланкі,
Дождж, як мора, з нябёсаў лінуў.

Падарожны вачам не паверыў,
Сцёр з павек дажджавую ваду,
Каралеўна, узяўшы сякеру,
З плеч здымала сваю галаву.

На стале перад люстрам стаўляла,
Раскладала вакол валасы,
У сярэбранай місцы купала,
Запляла дзве буйныя касы.

Галава гаварыла, смяялась,
Па кутах пачала пазіраць
Перад люстрам прыгожа убралась,
Ды адбітку было не відаць.

Потым зноўку на плечы асела
Урасла, бы ніхто не здымаў,
На імгненне яшчэ задрыжэла,
Бант шаўковы на шыю упаў.

Хлопец,  згледзеўшы гэткае дзіва,
Напрасткі без аглядкі ляцеў,
Месяц з неба свяціў сіратліва,
Ліст асінавы ціха трымцеў.

Дзень, другі непрыкметна збягае,
З вежы замкавай трубяць рагі,
Глашатай навіну аб'яўляе,
Прыпускаюць палацы сцягі.

- Сёння ранкам, пры самым світанні,
  На той свет каралеўна пайшла,
  Учыніце па ёй памінанне,
  У царкве спачывае яна! –

Чуў пра гэта і сын панамарскі,
А пад вечар прыйшлі запрасіць,
Абвясцілі указ гасударскі -
За нябожчыцу Бога маліць.

- Перад смерцю дзяўчына прасіла,
  Каб па ёй ты Псалтыр пачытаў,
  Тры начы памінаў безупынна
  І ў магілу яе праваджаў. –

Што рабіць, каралеўская воля,
Не прыходзіцца тут выбіраць,
Але гора, праклятая доля,
Над вядзьмаркай маленне чытаць!

Вось сабраўся, да цэрквы шыбуе,
А насустрач маленькі дзядок.
- Ад чаго так балесна гаруеш?
Падзяліся са мною, сынок!

- Ой, дзядуля, на смерць пасылаюць,
А працівіцца волі няма,
Хіба ведзьмаў у нас памінаюць?
Хіба і ганьбяць малітву дарма?

- Вось табе персцянёк залачоны,
Перад тым, як малітву чытаць,
Абвядзі вакол круг асвячоны,
Сцеражыся назад паглядаць.

Што б не дзеялась, чары, напасці,
Гучна, смела чытай, не лянісь!
Аблятуць стараною ўсе страсці,
Толькі Божага слова дзяржысь! –

Круг абвёў, ахрысціўся павольна,
Агалосна малітву пачаў,
Чуе, хтосьці скавыча крамольна,
Сатана свае страхі пагнаў.

Каралеўна з труны паднялася,
Хоча персцень і кніжку схапіць,
За алтарныя дзверы ўзялася,
Ды не можа у круг заступіць.

Цэлу ночку праходзілі звады,
Але сын панамарскі чытаў,
Духі злыя не мелі улады,
Персцянёк хлопцу біскуп аддаў.

Як праходзіла ночка другая,
Каралеўна зняла галаву,
Падкідала яе, выгражала,
А пад ранак лягла у труну.

Падыходзіць і трэцяя стража
Засталось адну ночку пабыць,
Але што ўжо нячысты пакажа,
Як бы там галаву не злажыць?

Ноч.  За вокнамі зоры міргаюць
Спяць маўкліна на цэркве званы,
Прад іконамі свечкі палаюць,
Быццам ведаюць штосьці яны.

Тут як грымне, агонь загарыцца,
Лезуць бесы і здані з вуглоў,
Каралеўская дочка памсціцца,
Хоча выпіць бядачую кроў.

Выклінае, ламае іконы,
Б'е падсвечнікі, кнігі гараць,
Прамаўляе абразы, праклёны,
Намагаецца сілай узяць.

Ў час ліхі са сцяны мураванай
Выйшаў добры дзядуля сівы,
Тут пазнаў панамар запужаны –
Гэта быў сам Мікола святы!

Стала ў храме спакойна, лагодна,
Усё пастала на месцы свае,
Раніцой панамар прынародна,
Абвясціў, каб празналі усе.

Што была каралеўна вядзьмаркай,
Ды на кладбішчы нельга хаваць,
І нячыстых духоў валадарку
Малітоўна ў царкве памінаць.

Як адкрылі труну той праклятай,
То спужаўся мірскі і манах,
Галава была збітай, адцятай,
І ляжала нічком у нагах.

Кол асінавы ўбілі у грудзі,
У балота хаваць паняслі,
Пераказвалі добрыя людзі
Яшчэ доўга той жах на зямлі.

Панамар жа паўстаў архірэем,
Ды у цэркве саборнай служыў, |
Кожным разам, калі звечарэе.
Мікалая святога маліў.

# Смелы рыцар

Жыў на свеце смелы рыцар,
Многа па зямлі хадзіў,
Складна баіў небыліцы,
Смачна еў, салодка піў.

Не баяўся анікога,
Як па свеце вандраваў,
Перабіў пачвараў многа,
І нідзе не сумаваў.

Ранкам на каня сядае,
На прыволлі ўдаль імчыць,
Любая у след махае,
Просіць за сабой сачыць.

Не баіцца рыцар звады,
Не баіцца цёмных чар,
Зайздрасці, князёў улады.
Дажджавых на небе хмар.

Дзень яму – кірмаш пры замку,
Ноч – бяседа ля кастра,
Прыйдзе свята – на гулянку,
Ад цямна і да цямна.

Неяк раз яму прыпала
Цераз кладбішча ісці,
Цемра дзікая спрыяла,
Надавала жудасці.

Заскрыпела,  зашумела,
З-пад скляпення лез мярцвяк,
У каго б душа самлела,
Рыцар кажа: “Ну, ты як?”

- Што чуваць, чаго не спіцца?
  Па што лезеш на зямлю?
  Мо хацеў са мной пабіцца?
  Дык я слабенькіх не б’ю. –

Анямеў прывід няшчасны,
Люцыпара праклянуў,
У скляпенне хутка шаснуў,
І ціхенечка заснуў.

- Во паскудства! Во дзівацтва!
  Хоць бы з кім пагаварыць! -
  У сядло запрыгнуў хвацка,
  А здалёк святло гарыць.

Калі свеціцца акенца,
Значыць там карчма гудзе,
Грукнуў колькі раз у сенцы
І насустрач хтось ідзе.

Глядзь, а там русалак поўна,
Прыгажуні на падбор,
Валасы – часана воўна,
Плацці – залаты убор.

Для парадку павітаўся,
Крышачку пачырванеў,
Апасля і сам назваўся,
Ды за столікам прысеў.

Ён, вядома, хлопец зграбны,
Сам румяны, чорны вус,
Дужы, малады, прывабны,
Словам – братка-беларус.

Папрасіў сабе вячэру,
Шклянку добрага віна,
А тады вачам не верыў,
Пачалася тут вайна.

Хоць русалкі то і нечысць,
Але ж дзеўкі, як ні як,
За мужчыну б’юцца, енчаць,
Кудлы рвуць ды толькі так!

- Цьфу на вас! Вядома, бабы! -
  Не вячэраўшы пайшоў,
  Вёў каня цераз ухабы,
  Так і ранак надыйшоў.

Ой, гарыць нешта, палае!
Змей Гарынавіч ляціць,
Долу грымнуўся, кульгае,
І паўзе да рэчкі піць.

- Ты чаго адтуль зваліўся?
  І адкуль такі сушняк?
- Братка, ўчора так напіўся,
  Што не адыйду ніяк.

Першай башняй піў шампано,
А другою самагон,
Трэцяю смактаў старанна
З бочкі піва наўздагон.

Галавы то тры канешне,
А сярэдзіна адна,
Памажы мне, друг сардэчны,
Будзе слава і хвала.

Ну, ты ж ведаеш, галовы
Адрастаюць у мяне,
Адсячы, хай будуць новы,
Можа хоць мігрэнь прайдзе!

Я тады усім засведчу,
Што мяне ты перамог,
Над ракою пакалечыў,
Рэзаў з галавы да ног!

Толькі ўжо нідзе не ляпні,
Што мяне зялёны змей
Пацягнуў у свае лапы,
Распракляты ліхадзей.

А то скажуць змей на змея,
Гэта проста каламэс!
Ну, давай жа, дабрадзею!
Пачынай хутчэй працэс! –

Ляснуў рыцар, выйшлі воды,
Адвалілась галава,
Ды ад смеху той прыгоды,
Рагатаў ён тыдні два.

Замянілі змею башні,
Той шчаслівы паляцеў,
Нават гэты раз не кашляў,
Не чыхаў і не хрыпеў.

Стомлены шыбуе рыцар
Да двара ідзе свайго,
Мілая у гульку спіцы
Закалола, джджэ яго.

У руках яе качалка,
Вочы злосныя гараць,
То відаць, што будзе сварка,
Перабранка так сказаць.

- Дзе бадзяўся, з кім любіўся?
  Ўжо забыўся на мяне?
  Кажуць ночку весяліўся
  Ты з русалкамі ў карчме?

- Любая! Праўдзіва слова!
  Да русалак я ні-ні!
  Конь дакажа! Глянь, падковы
  Барабаняць па зямлі!

  То пацвердзяць ваўкалакі
  І вампіры зуб дадуць,
  Паклянуцца вурдалакі,
  Нават ведзьмы не ўпікнуць.

  Чысты я перад табою,
  Для цябе адной жыву,
  Кінь праявы неспакою,
  Пашкадуй мяне, прашу.

  Вось прынёс табе каралі,
  Завушнічкі, ланцужкі,
  Хараша б цябе прыбралі
  Ізумруды, персцянькі.

Захапіў я цуда-кветку
І Жар-птушчына пяро,
Македонскага манетку,
Золата і серабро… -

Доўга ён яшчэ прасіўся,
Улагоджваў, цалаваў,
Што нідзе не валачыўся
Чыстай праўдай даказаў.

Вось такі быў смелы рыцар,
Жыў, кахаў. Ні даць, ні ўзяць,
У паходах – навальніца,
Перад жонкай – ціш ды гладзь.

# Казка

Крочыў па дарозе воўк
Шэры і касматы,
А наперадзе Зьмітрок,
Хлопец зухаваты.

Ён вядомы быў кравец,
Добра ладзіў справу,
Падарожнік і шавец,
Меў паўсюдна славу.

Вось і кажа воўк яму:
- З’ем цябе, хлапчына,
З голаду не валаку
Шэрымі плячыма!

- Калі хочаш, то з’ядай,
Я табе даверу,
Толькі перад гэтым дай,
Камізэльку змеру.

Лапы кідай дагары,
Хвост уздоўж дарогі,
Як травіначка замры,
Тут парадак строгі! –

І давай яго збіваць
Меркаю-дубінай,
Так астаўся воўк ляжаць
З набіванай спінай.

Як ачомкаўся ад сна,
Расквітае зелька,
- І навошта мне была
Тая камізэлька?

Ці я пан, ці капітан,
Ці барон заможны?
Выкрыць гэтакі падман
Змог бы тут не кожны! –

Да абеду дзень бяжыць,
Вецер павявае,
Кветачкамі лён трымціць,
Жыта паспявае.

З вербалозавых кустоў
Вылезла кабыла,
Паглядае воўк ізноў,
Просіць яе міла:

- Слухай, зараз з'ем цябе,
Трэба ж харчавацца!
- Ну, давай, чаму і не,
Для чаго спрачацца?

Толькі перш, як мы пачнём
Працэдуру гэту,
Пачытай пад капытом
У мяне газэту. –

Згорбіўся, ідзе чытаць,
Літары шукае,
А падковы аж гарацць,
Сонейка іграе.

Тут кабыла па зубах
Без усякай меры!
- Не шукай на капытах
Пісанай паперы! –

Пад кустамі воўк ляжыць,
Паглядае ў неба,
- Столькі страху пеpажыць,
Нашто яно тэба?

Ну, не з’еў, халера з ей,
Што тут гараваці?
Дык, хіба я грамацей,
Літары чытаці? –

Летні вечар настае,
Сонейка садзіцца,
З-за сяла баран ідзе,
Футра аж лacніцца.

І узнёслую ізноў
Шэры шле прамову,
Сказы сыпяцца з зубоў,
Сам не верыць слову.

- Не табе, баран, са мной
Свае сілы мерацъ,
Зараз мне пара табой
Смачна павячэраць!

- Ну, вячэрай, што казаць,
Справа ідзе к ночы,
Буду шчыра памагаць,
Сам у ляпу ўскочу!

Толькі зенкі зачыні
І адкрый хлябала,
Ды глядзі, першавары
Капыты і сала!

Разагнаўся наш баран,
Ды як дасць рагамі,
Воўк ляжыць і сыт і п’ян,
Дрыгае нагамі.

- Ці глынуў я, ці мінуў,
Сам таго не знаю,
Але гора сербануў,
Нешта чуць кульгаю.

# Запавет князя

Пасярод лясных абшараў,
Між балотаў і дуброў,
Князь магутны валадарыў,
Жыў у замку шмат гадоў.

Век яго ішоў на захад,
А багацце ўсё плыло,
Пашыраліся межы пахат,
Золата ў казну ішло.

Людзі зналі яго сілу,
Кожны ў сэрцы наракаў,
Па гадах – ісці ў магілу,
Ды Ўсявышні не прымаў.

Гаварыла наваколле,
Што гаротную душу
Сіла чорная няволіць,
Не пускае праз мяжу.

На малітве не бывае,
Добрых спраў не чыніць пан,
Страшным вокам паглядае,
Паўсюль бачыцца падман.

Як прыходзіць ночы багна
І жывое ціха спіць,
Ён чытае кнігі прагна,
Быццам хоча штось адкрыць.

Ноч бяссонная на троне,
Свечкі полымя ліюць,
Цяжар думак у кароне,
Хвілі змрочныя бягуць.

То прагляне маладосці
Светлы промень пачуццём,
То нярадаснае штосьці
Зварухнецца забыццём.

Вось ён княжыч маладзенькі,
Першы ў краі прыгажун,
З ім вітаюцца паненкі,
Дорань лютні гукі струн.

Хуткі конь – яго апора,
Меч заўсёды пад рукой,
На камзоле герб узорам
Княжацкі вянчае строй.

Вечар настае чаканы,
Ён прышпорвае каня
І імчыцца да каханай
Сустракаць надзеі дня.

Ружы ў парках расквіталі,
Дзіўна пелі салаўі,
Сэрцы чыстыя кахалі,
Дружна пад вянец ішлі.

Прыгадаюцца паходы,
Хвілі мужнасці, баёў,
Непрыяцеля чароды,
Рукі моцныя сяброў.

Маладосць кавала славу,
У гульбе вадзіла рэй,
Мела шчырасць і спагаду,
З добрым сябрам весялей.

Здрада падыйшла з гадамі,
Келіх яду паднясла,
Ў сэрцы вострымі цвікамі
Боль і смутак разліла.

За дукаты прадавалі
Верна слова, свет вачэй,
Лепш ім бітвы паздымалі
Буйны голавы з плячэй!

Людзі, людзі! Што вам трэба?
Чаго прагнеш, дзікі род?
Хопіць вам віна і хлеба,
Не мінуць святых варот!

Панясуць дарогай шчаснай,
Ногі  ўперад, вечны шлях!
Ў дзень пагодны, ці нянасны
На сямі ліхіх вятрах.

Думаў князь, ці будзе трызна,
Па што доўга так жыве,
Ад чаго цяпер і прысна
Бог праз гора ўсіх вядзе?

Мо няма на свеце Бога?
Дык жа ён і свет стварыў.
На шляху жыццёвым многа
Князь гадамі награшыў.

Ад таго і не прымаюць,
Не бяруць у царства сноў,
На спачын не бласлаўляюць,
Мчацца думкі роем зноў.

Так прыснуў, здрыгнулі веі,
Ажно бачыцца праз сон –
Нехта йдзе сярод завеі,
Ясным светам б’е з вакон.

Адчыніліся ціха дзверы
І скрозь залу, як жывы,
Крочыць старац ва ўсім белым,
Нібы цень самой зімы.

Гэта прашчур князя даўні,
Слаўны іераманах,
Што меў сілу надзвычайну
Асвятляць жыццёвы шлях.

Быў дарадцам людзям добрым ,
Шкадаваў, не ушчуваў,
У малітве прападобнай
Перад Богам век стаяў.

Як няслі яго хаваці,
Гараваў  увесь народ,
Галасілі ў кожнай хаце,
Што прыйшоў яго чарод.

Пан знямеў, змакрэлі вочы,
Ухапілася рука,
Падыйсці дзядуля хоча,
Прыгарнуці бедака.

- Як жывы, мой пане мілы?
  Сэрца беднае баліць?
  Я прыйшоў сюды з магілы
  Твае думы рассудзіць.

Прыгарнісь душой дзіцячай,
Мой сардэчны чалавек,
Зараз удваіх паплачам,
Блаславім пракляты век.

Бог даруе твае бітвы,
Бо яны за родны край,
Дбанні шчырыя – малітвы,
Годны Небу ураджай.

Ты сябрам нідзе не здрадзіў,
Не падбіў у час ліхі,
Шчыра справы княжы радзіў,
Не забрудзіў чэсць рукі.

Добры бацька сваім дзецям,
Верны муж і гаспадар,
Меў павагу ва ўсім свеце,
Як пачэсны валадар.

Грэх адзін вялікі маеш –
Не імкнешся да святла,
Бога ў сэрца не пускаеш,
Ад таго вакол імгла.

Золата збіраў старанна,
Ушаноўваў радавод,
Што ж так жорстка і заганна
Прыніжаеш свой народ?

Для цябе, як тыя пчолы,
Яны рупяцца штодня,
Самі ж у нястачы сёлы,
Хоць багатая зямля.

Ці не Бог Усемагутны
Тваю сілу мацаваў?
Ад таго я, тут прысутны,
Словы праўды наказаў.

Дык раздай свае багацці
Тым, хто іх і зарабіў,
Нарадзіўся ты не ў плацці,
Як былінка голы быў.

Ці не я цябе малога
У вадзе святой купаў,
Ад царкоўнага парога
Богу ў Тройцы прысвячаў?

Скарбы князя не пускаюць
На шырокі Божы свет!
Шлях апошні засцілаюць
Гурбы залатых манет!

Трэць пакінь сваім нашчадкам,
Бог дадасць ім да таго,
А дзве трэці – немаўляткам,
Дзеля ран святых Яго.

Бласлаўляю цябе, сыне,
Прысна і ва ўсе вякі!
Княства Бог твайго не кіне,
Не адпусціць з-пад рукі!

Сам збірайся у дарогу,
Выканай, што загадаў!
Будзе праўды перамога,
Як твой прадзед завяшчаў! –

Светлы ранак, дзень калядны,
Божа свята настае,
З замчышча наказ уладны
Падарункі людзям шле.

Раздаюць таму, хто ў працы,
Каму дзетак гадаваць,
Ўсе прымаюцца ў палацы,
Князь ахвочы люд вітаць.

Па ўсім княстве добры справы
Учыняе гаспадар,
Міласэрныя праявы
Праслаўляюць Божы дар.

Ясным светам расквітае
Беларуская зямля,
Кожны князя бласлаўляе,
Памінаючы імя.

Справы зладжаны пачэсна,
Выйшла збожжа на раллі,
Сэрца князя зноў балесна,
Праляцелі яго дні.

Клікае васпан дружыну,
Сем сваіх сыноў-дубоў,
Кажа ладзіць дамавіну,
Слухаць сэнс апошніх слоў.

- Дарагія мае дзеці,
  Сэрцу родныя сябры!
  Шмат гадоў я жыў на свеце,
  Чаму сведкамі ўсе вы.

Пакланюся ў вашы ногі,
Прабачэння папрашу,
Скончыліcь мае дарогі,
Забірае Бог душу.

Мейце згоду між сабою,
Даражыце кожным днём,
Бо не хлебам і вадою,
Божай міласцю жывём!

Ушаноўвайце Радзіму,
Шчыра дбайце пра народ,
А сыйсці вам з пуцявіны –
Я вярнусь праз сотню год!

Як мне прадзед, нагадаю,
Што на той вялікі свет
Душу скарбы не пускаюць,
Пакідаюць чорны след. –

Мовіў князь малітвы слова,
Блаславіў сыноў рукой
І пасля святой прамовы,
Вечны адшукаў спакой.

# Напасць

Вёз у горад чалавек
Прадаваць пшаніцу,
Клямкаю закрыў сусек,
Скочыў на вазніцу.

Па дарозе ён сустрэў
Бабаньку старую,
У руках яе зглядзеў
Ношаньку цяжкую.

За сабою валакла
Кавалёўскі молат.
Як жа толькі падняла?
Жанчына - не волат.

Згорбленая, век гадоў,
Сціплая, малая,
Пасма срэбных валасоў
На плячо спадае.

Ціха кажа мужыку:
- Падвязі паклажу,
Бо сама не ўвалаку,
Справу не наладжу!

- Добра, матухна, кідай,
Ўсё ж палёгка будзе,
Ды сама хутчэй сядай,
Дапамогуць людзі. –

Ціха едуць за сялом,
Дарога крутая,
З нейкім прыхаваным злом
Старая пытае:

- А скажы, мой гаспадар,
  Як ісці ў дарогу,
  Не баішся цёмных чар?
  Памаліўся Богу?

- Ды пакуль я малады,
  Што паклоны класці?
  Не баюся злой бяды,
  Цёмнае напасці.

- А ты, дзетка, памаліся,
  Бога не цурайся,
  Бо як здарыцца каліся,
  Толькі завіхайся! –

Падарожны прамаўчаў,
Усміхнуўся ціха,
За жыццё не сустракаў
Ад замовы ліха.

У дарозе час бяжыць,
Конік падганяе,
Зноў старэчая маўчыць,
А тады пытае:

- Можа б ты, паночак мой,
  Богу памаліўся?
  Бо, відаць, што неспакой
  На душы з'явіўся.

- Ат жа, бабская напасць,
  Што рабіць з табою?
  Будзеш гэдак данімаць,
  Пойдзеш пехатою! –

Змоўклі, рухаюць далей,
Разышліс туманы,
Сонца глянула ярчэй
На лугі, паляны.

У імгненне з-за лясоў
Горад паказаўся,
Дзе пад звон манастыроў
Ранак пачынаўся.

У гаршку кірмаш кіпіць,
Чэлядзь данімае,
Абмяняць, прадаць, купіць,
Кошты падбівае.

Гаспадар каня разпрог,
Сена даў, вадзіцы,
А старуха, як нарог,
Села на пшаніцы.

- Ну, прыехалі, злязай,
  Ідзі куды трэба!
  І кавадлу забірай,
  Не тапчы мне хлеба!

А яна як закрычыць:
- Хочаш каб я злезла?
  Тут жа молат мой ляжыць,
  Я цябе падвезла!

- Ўсё маё! І конь і воз,
Я тут гаспадару!
Адыдзіся ад калёс,
Людзі, дайце жару! –

Пазбягаў увесь народ,
Праўду-матку радзіць,
Ды пачаўся карагод,
Як яго уладзіць?

Людзі на баку старой,
Бо цяжар не ўздыме!
Пахваляецца сабой
Ведзьма-ахмістрыня.

На каго цяпер віну
За падман ускласці?
І ўзгадаліcь мужыку
Словы аб напасці.

Тут давай маліцца ён,
Плакаць, ды хрысціцца,
Ад старой раздаўся стогн,
Стала варушыцца.

Загарэлася агнём,
Дзіка рагатала.
- Памаліся за сялом,
Я табе казала! –

З неба ўдарыў перазвон
І напасць зніцела,
Толькі з чатырох старон
Рэха загудзела.

Ахрысцілісь мужыкі
І кабеты спраўны,
Разышліся на бакі,
Быў кірмаш звычайны.

Добры людзі з гэтых дзён
Моляцца ў дарогу,
Каб не напаткаў праклён
Чорнаю знямогай.



## Пасадзец

Чорна ліха ў вёску мчыцца,
Б’юць маланкі з процьмы хмар,
У сяленні разгасціцца
Крыважэрны камісар.

Аддавай каня, карову,
Будзем тут калгас рабіць!
Хлеб здавай стары і новы,
Нечага дзяцей карміць!

Тут улада ўся саветам,
Хто не згодны- куля ў лоб!
На работу йсці кабетам,
Каласы збіраць у сноп!

Мужыкам араць зямліцу,
Што у хаце ёсць – аддаць!
Есці лебяду з вадзіцай,
Ад прыбыткаў не хаваць!

Палымяныя прамовы
Засцілаюць белы свет,
Завялі парадак новы,
Прад Масквой даюць атвет.

Час ідзе, народ гаруе,
Цягне рабскае ярмо,
На зямлі штодня шчыруе,
Атрымоўвае адно –

Працу, голад, плач дзіцячы,
Зрэдку жытні каласок,
А пад гул начны сабачы
Едзе чорны варанок.

Забірае ў вёскі сілу
Працавітых моцных рук,
Ды вязе яе ў магілу
Пад жахлівы сэрца стук.

Там ужо ляжыць настаўнік,
Доктар, жнея і святар,
Акуловіч, Гартны, Плаўнік
Склалі жыцці на алтар.

Беларускія імёны
На прастоле сатаны
Бітай цэглай замашчоны,
Каб не выйшлі са сцяны.

Далучаюць нашы землі,
Быццам Польшча аддае,
Ды найперш, у захапленні,
Камісар туды ідзе.

Вось ён на кані ўзмакрэлым
Залятае на двары,
Голасам раве знямелым:
- Вы тут не гаспадары!

Будзе нова завядзёнка,
Ўсё па-нашаму рабіць!
Хто не згодзен, таго жонка
Ў гэту ноч са мной паспіць!

Сам тут стану валадарыць,
Кіраваць, ды запраўляць!
А не то – вам косці парыць,
На тым свеце спачываць! –

Гаварыў ён, надрываўся,
Пена жменямі з каня,
Але моцна памыляўся,
Не дажыў да свету дня.

Раніцай знайшлі халодным
За гарою на гумне,
Вілы з чаранком лагодным
Красаваліся ў спіне.

Хто чыніў, якая сіла,
Ніхто тайны не прадаў,
Порткі сінія магіла
Загарнула ў рэшце спраў.

Вёска звалася Пасадзец,
Сам Бядуля быў адтуль,
Там і сёння праўду радзяць,
Не забылі стрэлу куль.

# Ілля-прарок

Прыляцеў Ілля-прарок
Жнівеньскі сабраць аброк,
Навальніцы распусціў,
Па зямлі маланкай біў.

Яблыні ў садах патрос,
Туманы з сабой прынёс,
Покі разаслаў пярыны,
Ў лесе паламаў галіны.

У жытнёвыя хлябы
Панасеяў лебяды,
Ветры на зямлю паслаў,
Павуцінкай заматаў.

Ноччу зорнай сыпе znічкі,
Робіць небу завушнічкі,
А пад раніцу лістоту
Пакрывае пазалотай.

Дзе на вішні, на рабіне
Жоўценькі лісток пакіне,
Гронкі спелыя гараць,
Просяцца хутчэй прыняць.

Ягад россыпы вакол,
Зіхаціць духмяны дол,
Раскідае хараство,
За ваколіцу ў сяло.

А як зойдзе у грыбніцу,
Пачынае весяліцца,
Падрастаюць лісяняты -
Грыбнікам пасаг багаты.

Там глядзіш прарок панёс
З поля жыта і авёс,
Раскладае на паліцу
Пірагі з густой пшаніцы.

І зямелька аддае
Ўсе каштоўнасці свае,
Людзі добрыя прымаюць,
Урадлівасць ухваляюць.

Дзень гарачы, ноч астыне,
Ляжа пыл на пуцявіне.
Птушкі сілы берагуць,
Ў край далёкі адлятуць.

Сабярэ Ілля-прарок
Да зярнятка свой аброк,
І памчыць на ўсіх вятрах
У далёкі вечны шлях.

# АДКУЛЬ ПАНЫ І МУЖЫКІ

Бог працуе дбайна, цэлы век стварае,
Падзівіцца файна, не звясці вачэй,
З пшанічнага цеста пана вырабляе,
Селяніна – з гліны, так яму ямчэй.

Скончыў Бог работу, ды пайшоў абедаць,
Трэба ад напругі і яму спачыць,
З-пад куста сабака прыляцеў разведаць,
За господняй справай вокам прасачыць.

Уварваўся спрытна у майстэрню Бога,
Нюхаўкай разнюхаў, вынікі зрабіў,
Мужыка не з’есці – гліны ў ім замнога,
Дык вяльможным цестам цюцька закусіў.

З’еў у пана вушы, лысінку і носік
Камізэльку, боты, гальштукам заеў,
Зноў Усемагутны рвецца да работы,
Як убачыў гора, так і абамлеў!

Ухапіў сабаку, ды за лапы трэсці,
Цеста ратаваці з гэтакай бяды,
А з бакоў сабачых, панабраўшысь чэсці,
Сыпяцца паўсюдна знатныя паны.

Трапіць пад бярозу – значыць Беразоўскі,
Ляснецца пад елку – Ельскім назавуць,
Пад сасной спачыне – то васпан Сасноўскі,
Пад гарой – Падгорскі, зноў паны бягуць.

Скочыць пад альхою – будзе пан Альшынскі,
Сядзе за балотам – Забалоцкі пан,
Упадзе ў капусту – шляхціц Капусцінскі,
Гэдак вось сабака зрушыў Божы план.

Пільна паглядае Езу пахвалёны,
Дзе паноў спыняе, там дае імя.
З той пары ад Бога шляхціцы хрышчоны,
Прозвішчы давала Родная Зямля.



# Сьвяты Юрай

Давай ключы – зямлю адмыкаць!
Давай расу – травіцу расціць!
Давай лісточкі – дрэвы убраць!
Давай ваду – каровак паіць!

Прачнуўся Юрай – вясёнка прыйшла,
Дзе крокам ступіў – крынічка бяжыць,
Вясёла птушка гняздзечка знайшла,
На небе грае, сонца блішчыць.

Кароўкі ў поле гані, пастушок,
Вярбой свянцонай лёгенька бі!
Іграй бадзёра ў новы ражок,
За статкам пільна, зорка сачы!

Цвіце паўсюль царыца-вясна,
Вядуць дзяўчаты свой карагод,
Святочны стравы нясуць да стала,
Багацця просяць на новы год.

Бярозкі срэбным ззяюць святлом,
Дуброва зычну песню пяе,
Квітнеюць краскі дружным гуртом,
Вяснянка вабіць, гучна заве:

Давай ключы – зямлю адмыкаць!
Давай расу – травіцу расціць!
Давай лісточкі – дрэвы убраць!
Давай ваду – каровак паіць!

# Калінавы мост

З’явіцца мост калінавы
Ціхай ранняй зарою,
Цягнецца водар палынавы
Горкім сваім туманом,
Золак ідзе асінавы,
Шые чароўную мрою,
З душамі, роднымі, мілымі,
Стрэнемся за сялом.

Ой жа, на мосце калінавым
Прашчураў нашых абдымем,
Ды на абрусе вышытым
Жытні хлеб, соль паднясём,
Сыйдуць гады хвілінаю,
Лёсы жыцця былінаю,
Песню чырвонай рабінаю
Родную запяём.

А на стале мядовая
Чарка хмяльная новая,
А за сялом дубовая
Пушча галлём шуміць,
Ветры пяюць раздольныя,
Ззяюць крыніцы вольныя,
Прашчуры хлебасольныя
Просяць яшчэ пабыць.

# Вужыны Цар

Валадарыць скарбамі зямнымі,
Сутарэнняў тайны сцеражэ,
У кароне вострай Цар вужыны
Пералік вякоў былых вядзе.

Мудрасць яго – казкі і паданні,
Шлях жыццёвы – бітвы і муры,
Памяць пра геройскія змаганні,
Аб якіх спявалі ваяры.

Гэта Цар вужыны меч прымае,
Забірае ў чорную зямлю,
На стагоддзі доўгія хавае,
Выкідае  ўвесну на раллю.

Шчыт і латы аддае унукам,
Праўнукам князёў і каралёў,
Рог вайсковы абуджае гукам,
Каб за родны край ішлі ізноў.

Ворагаў панішчыць ён паглядам,
Бедным паспрыяе ў час нягод,
Злыя душы поіць смертным ядам,
Ад таго баяцца наш народ.

Гэты яд для нас – святая праўда,
Без яе ніколі не пражыць,
Для варожых сіл – атруты багна,
Мора, праз якое не паплыць.

Цар вужыны слабага не крыўдзіць,
Ім кіруе рыцарскі закон,
Справядлівасць з праўдай не абыйдуць,
Хцівасць і падман прагоняць вон.

Мы – змяінай мудрасці нашчадкі,
Ціха свае скарбы зберажом,
Вернуцца даўнейшыя парадкі,
Прыйдуць на чале з Царом-вужом.

Гэта ж ён ад бітвы меч прымае,
Забірае ў чорную зямлю,
На стагоддзі доўгія хавае,
Каб вярнуць у рукі каралю.

## ПЛАЧКА

Усё голасна моліцца Богу,
Слёзы горкія ў смутку ліе,
Уначы абуджае трывогу,
Душы бедныя к свету заве.

Ці па дзецях той плач невыносны,
Ці па ўдовах сірочай зямлі
Раздаецца наўсцяж агалосна
Там,  дзе людзі спрадвек не жылі.

Гэта Плачка ідзе на магілы,
На  цвінтар і царкоўны парог,
Гладзіць крыж пахавальны пахілы,
Знаўшы долю, што вызначыў Бог.

Бы дзяўчына у срэбным адзенні,
Ходзіць босая шляхам зямным,
Праслаўляе крыжы і скляпенні,
Дорыць смертную памяць жывым.

Ды за ўсіх, хто не здолеў заплакаць,
Пралівае гаркаву слязу,
Тыя кроплі Ўсявышняму плацяць,
Водзяць душы у рай праз мяжу.

# Пакроўская царква

Над царквою Гаравецкай ціха,
Не звіняць праваслаўны званы,
Пракацілась чырвонае ліха,
Пагарэлі ў агні абразы.

Крыж над купалам скінулі долу,
Развярнулі цагляны цвінтар,
Учынілі пагану крамолу,
Разламалі Гасподні алтар.

Святара, прападобнага старца,
Прыгразілі жыўцом закапаць,
Бальшавіцкага ката-паганца
У бясчынстве дурным не стрымаць.

Разарвалі святарскія рызы,
Білі, здзекваліся, хто толькі мог,
Над пагоркамі дым чорна-шызы
Ахінаў пуцявіны дарог.

Не пачуеш святога малення
У пустой праваслаўнай царкве,
Толькі вуж прапаўзе у скляпенні,
Дзікі вецер псалом запяе.

Спяць магілы, хрышчоныя продкі
Просяць Бога за дзетак сваіх,
Тыя ж чыняць крывавы угодкі,
Не шануюць парадкаў былых.

Як шалёны звяругі-паганцы
Весяліцца рашылі гуртом,
У царкве старой зладзілі танцы,
З дзікім рогатам, пляскай, віном.

Пад царквою святарскія косці
Не маглі ў цішыні спачываць,
Быццам здзейснілі страшнае штосьці,
За што можна нагамі таптаць.

Трыста год таму месцу святому,
Трыста год там малітва жыла,
Дык якому паганцу дурному
Гэтак страшная думка прыйшла?

Па ўсёй Белай Русі і Вялікай,
Ды па Кіеўскай слаўнай Русі
Апаганьваць Гасподнія лікі,
Нішчыць скарбы славянскай душы?

Саграшылі, ды так саграшылі,
Чорна гора штодзень цераз край,
Свае душы нявер’ем душылі,
Не хацелі ні ў пекла, ні ў рай.

Як жылі, ці сябе паважалі?
Ці хінуліся да сэрцаў жывых,
Калі продкаў зямлю абражалі,
Не хрысцілі маленькіх сваіх.

Людзі добрыя, што будзе з намі,
Няўжо кінемся ў прорву грахоў?
Знішчым тое, што грэла вякамі,
Будавалася працай дзядоў?

Праз гады аднаўляліся храмы,
Бы вярнулісь да Божай зары,
Ды на сэрцы крывавыя раны
Крываточаць да гэтай пары.



# ЗМЕСТ

**Уладзімір Аляксандравіч Міронычык**

# “ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ”

***Вершы на беларускай мове***

**Ілюстрацыі  Кацярыны Васілеўскай**

**г. Лагойск**

**2018 год**